# А ЎСЁ МАГЛО БЫ БЫЦЬ ЗУСІМ НЯ ТАК

**Любы алкаш, папіваючы агіднае гарадзенскае піва з бруднага слоіка з-пад салянкі, вам упэўнена скажа, што Беларусі неабходна як найхутчэй далучыцца да Расеі, бо бяз таннай нафты мы загінем. Здаецца, бяры яго разам са слоікам і стаў на месца міністра, або прэзідэнта. Яны ж лічаць тое самае, і іншага выйсьця з крызіса ня бачаць. Яшчэ гэтую катэгорыю нашых суайчыньнікаў аб'ядноўвае паталагічная нянавісьць да людзей, якія думаюць ня так. Да тых, хто намагаецца стварыць дабрабыт сабе і сваёй сям'і, ні ў каго ня просячы ласкі. Але грошы (хто на піва, а хто на мэрсэдэсы) цягнуць з кішэні менавіта гэтых людзей. Пустазельле камуністычнай ідэалогіі забівае на Беларусі парасткі ўсяго, што хоча прабіцца да нармальнага жыцьця.**

Прыклад нашых нядаўніх суседзяў па «сацыялістычнаму лагеру» паказвае, што можа быць інакш. Ня буду казаць пра ўсе краіны, але перамены, што адбываюцца ў Польшчы, ведаю, бо бачу сваімі вачыма. Першы раз я патрапіў туды ў 1988 годзе, улада была яшчэ ў камуністаў. Тады польскія грамадзяне былі асноўнымі гандлярамі на нашых торжышчах. Знаёмства з польскай рэчаіснасьцю пачалося на гарадзенскім чыгуначным вакзале. Маючы ў руках толькі некалькі кніжак, я адным з першых заняў месца ў цягніку і меў магчымасьць назіраць, як схіліўшыся амаль да зямлі, пад цяжарам нашых тэлевізараў, адпіхваючы адзін аднаго, палякі штурмам «бралі» вагоны. Прыехаўшы ў Кракаў, пабачыў даўжэзныя чэргі па мяса. Купіць нешта магчыма было альбо «з рук», альбо ў шматлікіх камерцыйных склепіках. У дзяржаўным гандлі з прадуктаў чамусьці быў толькі воцат, а ў вялікай пустой зале крамы, дзе павінна было прадавацца адзеньне, мяне ўразілі адзіныя, вялізарнага памеру штаны невядомага колеру. У размовах людзі выказвалі варожасьць да камуністаў і СССР, на іх думку, усё вывозілася туды.

Другі раз я прыехаў у Польшчу ў 1991 г., ужо ішлі рэформы. Быў я ў Беластоку, начаваў у знаёмага беларуса. Ён пераконваў мяне, што Захад выкупіць Польшчу, бо ніхто не працуе - усе гандлююць замежнымі таварамі. А раніцай павёў пахваліцца крамай, дзе купляў усё неабходнае. Я хадзіў паміж прылаўкамі, напоўненымі прыгожымі, пераважна нямецкімі прадуктамі, як па музеі. Заробак савецкага інжынера прымушваў сарамліва адмаўляцца ад прапаноў сімпатычных прадаўшчыц нешта купіць. Мой знаёмы быў яўна задаволены, але ўсё ж падкрэсьліваў, што тавараў польскай вытворчасьці амаль няма і гэта давядзе краіну да згубы.

Пасьля 1993 году я наведваў Польшчу даволі часта і бачыў, як зьмянілася краіна на працягу некалькіх гадоў. Свая вытворчасьць - мара кожнага нармальнага прадпрымальніка, бо гэта стабільная праца, незалежнасьць, павага людзей, і галоўнае, - ёсьць што пакінуць нашчадкам, забясьпечыўшы ім пастаянны заробак. Таму, як толькі ў краіне зьявіліся ўмовы, зарабіўшы на гандлі пачатковы капітал, наладзіўшы сувязі з заходнімі вытворцамі, палякі стараліся атрымаць ад іх інвестыцыі і прывозіць ужо не гатовы тавар, а абсталяваньне і сучасныя тэхналогіі. Шмат людзей, раней выехаўшых за мяжу, вярнуліся з заробленымі там грашыма, каб адкрыць свой бізнэс. Як грыбы пачалі ўзьнікаць новыя прадпрыемствы, з дапамогай заходніх фірмаў адраджацца старыя. Той, хто ня змог або не захацеў ствараць сваю вытворчасьць, пайшоў працаваць да іншых, альбо заняўся гандлем, які ўжо мае цывілізаваны выгляд.

У крамах амаль няма тавараў, зробленых ня ў Польшчы, але крамы ня сталі пустымі. Наадварот. У Беластоку зьявілася неверагодная колькасьць вялікіх і малых гуртоўняў. Ёсьць нават раён з красамоўнымі назвамі вуліц Гуртовая, Складовая, Гандлёвая і г.д., дзе разьмешчаны гуртоўні. У іх забясьпечваюцца таварам шматлікія крамы і базарныя гандляры. Каля складоў заўсёды можна ўбачыць мытнікаў, якія афармляюць паперы для адпраўкі грузаў. Кожны дзень дзесяткі аўтамабіляў, ад мікрааўтобусаў да аўтафургонаў, з беларускімі, расейскімі ды ўкраінскімі нумарамі, запоўненыя польскімі прадуктамі харчаваньня, касьметыкай, адзеньнем займаюць чэргі на мяжы. Тысячы людзей вывозяць тавар у сумках і баулах. Зараз палякі гэтаму толькі цешацца. У іх ёсьць нават сьпецыяльны падатак ВАТ, які ня трэба плаціць у тым выпадку, калі гандлюеш з замежнымі фірмамі. Дарэчы, той мой знаёмы, які ў 91-м годзе перажываў за будучыню польскай эканомікі, у 93-м распачаў сваю справу і прывозіў польскія тавары на Беларусь.

Акрамя вялікага сучаснага базару, у цэнтры Беластоку разьмешчаны невялічкія базарчыкі, на якіх можна купіць усё неабходнае. Яны нікому не перашкаджаюць, улады наадварот абараняюць правы гандляроў. Людзі працуюць, зарабляюць грошы сабе і плоцяць падаткі дзяржаве. У Польшчы ужо утварыўся стрыжань, на якім мацуецца кожная цывілізаваная краіна - сярэдні клас жыхароў.

Я не ідэалізую нашых суседзяў. Праблем там хапае. Ёсьць і нерэнтабельныя вялікія прадпрыемствы, ёсьць і беспрацоўе. Нехта займаецца нелегальным бізнесам. Але падаўляючая большасьць працуе сумленна, бо склаліся ўмовы, пры якіх так працаваць выгадней. Узровень жыцьця палякаў яшчэ далёка не такі, як у Заходняй Эўропе, але краіна ўпэўнена рухаецца наперад і ўсё больш аддаляецца ад Беларусі, якая ўпарта крочыць назад.

Сёньняшні наш стан нельга параўнаць нават з польскім узору 91-га году. Нешта падобнае было пры Кебічы. Але яшчэ Францавіч пачаў адыход ад рэформаў. А.Лукашэнка, падсьвядома адчуваючы небясьпеку зьяўленьня на Беларусі сярэдняга класу, вядзе сапраўдную вайну супраць прадпрымальніцтва. Аўтарытарнаму рэжыму не патрэбна заможнае грамадзтва. Яму патрэбен люмпенізаваны народ, які поўнасьцю будзе залежаць ад звышбагатай кіруючай наменклатуры.

**Д.КІСЕЛЬ.**

## "ЯКУБ" ЗАСТАЎСЯ БЕЗ ЛІЦЭНЬЗІІ

У цэнтры Горадні зачыняецца некалькі камерцыйных кіёскаў.

За невыкананьне рашэньня гарвыканкаму ад 20 сьнежня мінулага году аб зносе ў двухмесячны тэрмін кіёскаў дробнарозьнічнага гандлю, ліцэньзій на права вядзеньня розьнічнага гандлю пазбаўлены ўладальнікі кіёскаў, разьмешчаных ля крамы «Дом адзеньня» па вуліцы Стэфана Баторыя.

У ліку «пацярпелых» - гарадзенскае прадпрыемства спортлатарэяў, вытворча-камерцыйныя фірмы «Якуб» і «Эм-Транс», а таксама малое прадпрыемства «Арыгінал».

## КАМУНІЗМ ДЛЯ АБРАНЫХ

Амаль трыста сорак мільёнаў рублёў было выдзелена ў сакавіку гарадзкой службе субсідаваньня для прадстаўленьня безнаяўных жыльлёвых субсідый грамадзянам. Толькі пры жыльлёва-эксплуатацыйнай службе N 19 дзяржава аплочвае камунальныя паслугі ўладальнікам 1884 кватэр.

**В.М.**

# І РАДЫ Б У РАЙ...

**Прэзідэнцкія абяцанкі запуску заводаў, трывала перайшоўшыя у сьферу народнага фальклору, адчуў на ўласнай скуры калектыў аднаго з буйнейшых прадпрыемстваў Маладэчна - радыёзавода «Спадарожнік». На прафсаюзнай справаздачнай канферэнцыі, што адбылася 10 красавіка ў актавай зале завода, менавіта гэтаму, а таксама іншым канцэптуальным пытаньням па аналізу і выхаду з крызіснага становішча надавалася вялікая ўвага дэлегатаў і запрошаных на яе гасьцей.**

Так, старшынём прафкаму сп.А.Міхасёнкам была зьвернута ўвага на нізкую сярэднюю зарплату за мінулы год - яна склала толькі 563 тыс. рублёў і выдавалася са значным спазьненьнем. Як паведаміў прафсаюзны кіраўнік завода, з 4,5 тыс.чалавек (некалі было каля 8 тысяч) працуючых на заводзе, за закон аб першачарговасьці выдачы зарплаты было сабрана 1400 подпісаў рабочых і служачых. Цікавым і насычаным было выступленьне дырэктара «Спадарожніка» сп.М.Андрэева, які рэзка крытыкаваў заканадаўчую і выканаўчую ўлады краіны , асабліва ў падатковай сьферы, і параўна зробленыя нядаўна паслабленьні для вытворцаў з прыпаркай для мёртвага. Як адзначыў Мікалай Андрэеў, завод нясе вялізарныя выдаткі і за закуп камплектуючых. Відаць, дзякуючы адзінаму мытнаму саюзу з Беларусьсю, РФ, баронячы сваіх вытворцаў, стварыла варункі для манапалізму расейскіх прадпрыемстваў на продаж і кошт выробленых імі радыёдэталяў (з-за вялікіх пошлін некалі танныя і больш надзейныя камплектуючыя краін Захаду з увядзеньнем мытнага саюзу сталі практычна недаступнымі для нашых вытворцаў). Як засьведчыў дырэктар завода, яшчэ зусім нядаўна варонежскі завод кандэнсатараў заявіў аб павышэньні кошту на свае вырабы на 30%, а маскоўскі завод «Пульсар» увогуле ўзьнімае кошты у 3,5 раза, што выклікала практычна поўнае спыненьне выпуску аўтамагнітол (толькі камплектацыя на адну магнітолу каштуе 570 тысяч рублёў, пры кошце гатовага замежнага аналага ў 500 тысяч).

У выніку наступстваў сёньняшняй эканамічнай палітыкі завод завінаваціў дзяржаве 40 мільярдаў рублёў. Праўда, па словах сп.М.Андрэева, і заводу вінаватыя каля 20 мільярдаў, асабліва прадпрыемствы Расеі, дзе ельцынскай адміністрацыяй замест разьлікаў за купленую прадукцыю, сродкі выдаткоўваюцца на папулісцкую перадвыбарчую гульню па выдачы грашовай запазычанасьці. У прыватнасьці, на краснаярскі радыёзавод, які цесна супрацоўнічае з нашым маладэчанскім «Спадарожнікам», не вяртае грошай ужо 7 месяцаў. Вялікія страты панёс завод і ад забароны з 1 сакавіка продажу сваёй прадукцыі камерцыйным структурам за папярэднюю аплату. Шмат было сказана ня толькі дырэктарам, але і іншымі дакладчыкамі, аб парушэньнях рабочай дысцыпліны, у прыватнасьці, масавых п'янствах на рабочых месцах і ў кабінетах, у тым ліку і кіраўнікамі цэхаў і аддзелаў. Як сказаў дырэктар, калі мы не пазбавімся за лета гэтага і многіх іншых трывожных сімптомаў і не аздаровім абстаноўку на заводзе, то ўваходзіць з такім багажом у зіму немагчыма. Толькі вось якяе аздараўляць, калі ўнутраны кошт расейскіх энерганосьбітаў у другой палове года дасягне сусьветнага і выкліча тым самым далейшы віток росту цэн, у тым ліку і на камплектуючыя? Ды і мытны саюз, відаць, ніхто пакуль што адмяняць не зьбіраецца.

**Алесь ЦАДКО.**

# СТРАХ ПЕРАД СТРАХАВАНЬНЕМ!

**Гарадзенскія ўлады параілі кіраўнікам усіх прадпрыемстваў Горадні правесьці праз аддзяленьні Белдзяржстраху абавязковае страхаваньне ўсіх работнікаў за кошт сродкаў прадпрыемстваў.**

У мінулым годзе з-за адсутнасьці страхавых полісаў некампенсаванымі засталіся страты на суму звыш мільярду рублёў. За 380 адбыўшыхся ў Горадні мінулагодніх пажараў толькі ў 42 выпадках пацярпелыя мелі дамовы страхаваньня. Толькі ў 113 выпадках (4 працэнты ад агульнай колькасьці) выплочваліся страхавыя кампенсацыі за ўкрадзеную маёмасьць.

Усяго ж за 1995 год Белдзяржстрах у Горадні выплаціў застрахаваным пацярпелым 365 мільёнаў рублёў.

На думку дырэктара гарадзенскага аддзяленьня Сьвятланы Кулак, галоўнай прычынай таго, што ўсё менш і менш людзей сёньня страхуецца, зьяўляецца інфляцыя. Яе наступствам стала шматразовае абясцэньваньне дамоваў доўгатэрміновага страхаваньня, якое ня здолела кампенсаваць нават індэксацыя ўкладзеных грошай у дзесяць разоў. Страх аднойчы падманутых дзяржавай людзей перасільвае клопаты пра ўласнае жыцьцё і здароўе.

**Вітаўт РУДНІК.**

## МІЛІЦЫЯ ТРЭНІРУЕЦЦА

У чацьвер 11 красавіка офіс банку «Комплекс» быў ачэплены ўзброенымі міліцыянтамі. Аб'яднаньне «Ахова» праводзіла абласны семінар для сваіх супрацоўнікаў, пад час якога адбыліся паказальныя вучэньні. На іх адпрацоўваліся дзеяньні па абароне падобных установаў ад злачынных нападаў.

**С.С.**

## НАЦЫЯНАЛІЗАЦЫЯ ПАЧАЛАСЯ З ВАЛЮТНАЙ БІРЖЫ

Прэзідэнт А.Лукашэнка сваім указам N 139 «Аб пераўтварэньні акцыянернага таварыства Міжбанкаўская валютная біржа» ад 9 красавіка г.г. нацыяналізаваў валютную біржу і перадаў яе ў распараджэньне Нацыянальнага банку. Акцыянерам таварыства будуць кампенсаваны іх долі ў статутным фоньдзе. Біржа пераўтварылася ў дзяржаўную ўстанову і цяпер Нацбанк можа абвяшчаць любы курс валют. Нават 64 капейкі за долар. Пры абавязковым продажы валюты суб'ектам гаспадараньня няма куды дзецца. Іншымі наступствамі ўказу будзе ўцёк капіталу ў замежныя банкі і росквіт валютчыкаў, памяншэньне экспартна-імпартных аперацый.

Згодна з нормамі канстытуцыйнага, грамадзянскага права, прыватная ўласнасьць ня можа быць адвольна адабраная. У цывілізаваным сьвеце нацыяналізацыя магчымая ў выключных выпадках агульнаграмадзянскай патрэбы. Яна праводзіцца актамі парламанту. Указ N 139 наводзіць на ўспамін аб часах калектывізацыі і раскулачваньня.

Прэзідэнт імкнецца да поўнага кантролю над валютна-крэдытным сектарам эканомікі. Нават калі ўявіць, што ўсе банкі стануць дзяржаўнымі, то ад гэтага колькасьць прадукцыі не павялічыцца. Наступным крокам непазьбежна будзе стварэньне Дзяржплану з разнарадкамі, фондамі, лімітамі, планавым крэдытаваньнем і сьпісаньнем пазыкаў.

## «ЧОРНАЯ» СЕРАДА

У сераду цэлы дзень абменныя пункты Горадні гандлявалі выключна той валютай, што здавалі на продаж грамадзяне. Курс паранейшаму роўны 13.100 руб. за долар. Рэдкіх прадаўцоў перахоплівалі альбо валютчыкі, альбо тыя ж пакупнікі-грамадзяне, якія перад некаторымі «канторамі» стварылі немалыя чэргі.

У валютчыкаў у сераду ўвечары долар каштаваў 13.400 рублёў. Яны таксама скупляюць долары і ў канторах.

## У ЛЮСТРЫ СТАТЫСТЫКІ

За студзень-люты бягучага году па Гарадзенскай вобласьці зарэгістравана 1788 народжаных і 3535 памерлых. Натуральны спад насельніцтва за 2 месяцы склаў 1747 чалавек, гэта ў 2,1 раза больш мінулагодняга. Прырост насельніцтва захаваўся толькі ў гарадах Горадня і Смаргонь.

Зарэгістравана 1000 шлюбаў і 799 разводаў.

Па пытаньню працаўладкаваньня з пачатку году па ўсёй Гарадзенскай вобласьці зьвярнулася 14,6 тыс. чалавек, з іх працаўладкавана 4,6 тысяч. Па стану на 1 красавіка, статус афіцыйнага беспрацоўнага мелі 23,2 тыс. чалавек. У параўнаньні з адпаведным перыядам мінулага году гэта больш на 86,3%. Сярэдні памер дапамогі беспрацоўнаму склаў за сакавік месяц 129,1 тыс. рублёў. На адно свабоднае месца ў сакавіку прэтэндавала 29 беспрацоўных.

Сярэднемесячная заработная плата працоўных вобласьці ў лютым склала 921,7 тысяч рублёў. У сьферы аховы здароўя яна склала 893,5 тыс.рублёў, у адукацыі - 1033,9 тыс.рублёў, у апараце органаў кіраваньня - 1307, 9 тыс.рублёў, банкаўскай - 1769, 4 тыс.рублёў. Працоўныя сельскай гаспадаркі (без калгасаў) мелі ў лютым 636,9 тысячы рублёў.

Па стану на 1 сакавіка ў вобласьці было 296 стратных прадпрыемстваў, альбо 29,5% ад колькасьці ўлічаных прадпрыемстваў і арганізацый.

На долю ВА «Азот» і ВА «Хімвалакно» ў вартасным выражэньні прыпадае амаль чацьвёртая частка ўсяго аб'ёму вытворчасьці па вобласьці.

Агульны аб'ём зьнешняга гандлю ў доларах ЗША склаў за студзень-люты 85,3 мільёна долараў, у тым ліку экспарт 61,2, імпарт - 24,1 млн. У Расею экспартавана тавараў на 26319,1 млн., імпартавана на 13050,8 млн., без уліку энерганосьбітаў, нафтапрадуктаў і газу. З Нямеччыны ўвезена на 2558,9 млн., экспартавана ў гэтую краіну на 15966,7 млн. долараў.

***Рэдакцыя і надалей будзе знаёміць чытачоў з дадзенымі статыстыкі. Мы просім накіроўваць да нас Вашыя пытаньні.***

**С.С.**

## MEMORIA

# ТАЯМНІЧЫЯ СЬМЕРЦІ БЕЛАРУСКАЙ ЭМІГРАЦЫІ

**Савецкі рэжым пасьля Другой сусьветнай вайны трымаў пад пільным наглядам палітычную эміграцыю паняволеных народаў. Для гэтага ў эміграцкія арганізацыі засылаліся агенты дзяржбясьпекі, вербаваліся людзі ў эміграцкім асяроддзі за грошы, або за абяцаньне дазволу вярнуцца на Бацькаўшчыну. У некаторых выпадках выкарыстоўваліся агенты-нелегалы, якіх рознымі шляхамі і пад рознымі аблічамі закідваў на Захад КДБ.**

Калі на пачатку 50-х гадоў антысавецкі партызанскі рух у СССР прыйшоў у заняпад, многія яго кіраўнікі перабраліся на Захад. Агенты КДБ кінуліся наўздагон, бо мелі загад «свершить советское правосудие». Каманьдзірам беларускай партызанкі прыйшлося тэрмінова пакідаць Заходнюю Нямеччыну і выязджаць у Амерыку.

Атаман Якуб Новік (Харэўскі) пасяліўся ў Бразіліі. Пра яго не пісалі беларускія газэты: адныя таму, што нічога ня ведалі, а другія не хацелі навесьці на яго кадэбістаў. Але вось у лістападзе 1967 году іншы атаман партызанкі - Язэп Таўпека, схаваўшыся пад псэўдаю, друкуе успамін пра Беларускую Народную Партызанку ў газэце «Беларускі Голас», ды называе Новіка сярод загінуўшых у часе вайны. Якуб Харэўскі , які маўчаў 20 гадоў, тут ня вытрымаў і паслаў у газэту свае ўспаміны. Надрукаваныя яны былі ў студзені 1968-га пад назвай «Аб беларускай партызанцы ў апошнюю вайну». Праз тры месяцы славуты атаман атраду імя Нябабы трагічна загінуў...

Здарылася гэта 2 красавіка 1968 году ў Рыо-Грандэ Порт-Алегра. Атаман і яго ад'ютант Канстанцін Гук загінулі ў аўтамабільнай катастрофе. Хто і як забіў Харэўскага, думаю, можна даведацца ў адпаведных архівах, але толькі пасьля таго, як памруць непасрэдныя выканаўцы гэтага злачынства.

Найбольшы рэзананс набылі забойствы агентам КДБ Багданам Сташынскім ідэолагаў украінскага нацыяналізму Рэбета і Бандэры. Для гэтых забойстваў Сташынскі выкарыстоўваў адмысловы пісталет, які страляў ампуламі з атрутаю. Калі не зрабіць тэрміновага ўскрыцьця забітага, у яго крыві не застанецца сьлядоў атруты, і прычынаю сьмерці будзе названы інфаркт... Так і здарылася з Рэбетам, а вось у крыві Сьцяпана Бандэры атрута была знойдзена. Успамінаю я гэта таму, што і адзін беларускі дзеяч загінуў падобнай сьмерцю, і ў той жа Заходняй Нямеччыне...

Былы супрацоўнік віленскай «Нашай Нівы» і былы пасол Польскага Сойму Юры Сабалеўскі, да свайго выезду ў 1944 г. на эміграцыю, пасьпеў пасядзець і ў польскіх турмах, і ў савецкіх, і ў нямецкіх. Цудам застаўшыся ў жывых (напрыклад, ад расстрэлу бальшавікамі яго выратаваў пачатак нямецкай агрэсіі), Сабалеўскі і на эміграцыі працягваў актыўную палітычную дзейнасьць.



Ён уваходзіў у Беларускую Цэнтральную Раду, зьяўляўся старшынём яе Калегіі. У 1950-1951 г.г. Сабалеўскі спрычыніўся да закідкі на Беларусь дэсантнікаў Беларускага Вызвольнага Руху. Ён падпісаў і сакрэтную ўмову з украінскім атаманам Бульбай - Бараўцом аб сумесных дзеяньнях супраць расейска-бальшавіцкіх акупантаў.

Выехаўшы з Нямеччыны ў ЗША, ён там не прыжыўся і пастанавіў вярнуцца назад. Летам 1957 году Ю.Сабалеўскі прыязджае ў Заходнюю Нямеччыну, жыве ў Баэнфурце, а пасьля ў Кірхен унтэр Тэкк. 26 сьнежня 1957 году раніцай Сабалеўскі раптоўна памірае на пероне чыгуначнай станцыі Кірхен унтэр Такк. Памірае ад «інфаркту»...

Шмат чутак хадзіла пасьля яго сьмерці. Успомнілі, што Сабалеўскі пастаянна казаў, быццам яго праследуюць агенты КДБ. Але тады гэтыя словы не ўспрынялі ўсур'ёз. Некаторыя эмігранты, пішучы пра «таемную, раптоўную сьмерць» Ю.Сабалеўскага, абвінавачвалі ў ёй прэзідэнта БЦР Р.Астроўскага. Маўляў, Сабалеўскі шмат ведаў пра грошы Камінтэрну, якія прысвоіў напрыканцы 20-х г.г. у Вільні Астроўскі. Але гэта, праўдападобна, была дэзінфармацыя, пушчаная сьпецыяльна КДБ.

У 1964 годзе, ізноў у Зах.Нямеччыне, памёр таямнічай сьмерцю палкоўнік Людвік Галубовіч (Зарэчны), які арганізаваў пры дапамозе англійскіх сьпецслужбаў, закідку на Беларусь беларусаў-разьведчыкаў. У апошнія гады жыцьця ён адыйшоў ад палітыкі ды стаў каталіцкім сьвятаром. Але і гэта не выратавала яго ад помсты савецкай дзяржбясьпекі.

У верасьні 1955 г. у Мюнхене кадэбістамі быў забіты 30-гадовы супрацоўнік беларускай службы «Радыё Вызваленьне» Лявон Карась. Як высьветліла сьледства, ягонае «самагубства» было інсцынізаванае, забойцы ізноў не былі знойдзены...

Гэта толькі некалькі сьмерцяў, якія мне вядомыя. А было «таямнічых» сьмерцяў на эміграцыі досыць многа. Узгадаю хаця б генерала Міколу Дзямідава, якога ў 1965 г. у Чыкага моцна зьбілі невядомыя, паламалі руку. 75-гадовы Дзямідаў ужо ня мог ачуняць, і, неўзабаве, памёр...

Некаторыя з гэтых сьмерцяў так і застануцца таямніцай для нас. Але нам вядома, якімі метадамі змагаліся бальшавікі з лідарамі беларускай эміграцыі. Калісьці партызанская газэта «Інфарматар» пісала: «Мэта сталінскага бальшавізму - узгадаваць поўнасьцю паслухмянага, нацыянальна мяшанага, поўнасьцю бясправнага, ня маючага нічога чалавека-нявольніка, бо толькі гэтая сістэматызаваная двуногая арганізацыя можа надацца Сталіну для зьдзяйсьненьня ягоных планаў гвалту над сьветам. Дзеля дасягненьня гэтай мэты ўжываюцца самыя нялюдзкія спосабы, пры гэтым, зьнішчэньне і мана між імі як галоўныя прыёмы, гэтак жа нязьменныя, як і бальшавізм». («Інфарматар», 3 жніўня 1948 году).

**Ян ВЕЖАН.**

**НА ЗДЫМКУ: Юры Сабалеўскі.**

## НАШ КАЛЯНДАР

**19 красавіка**

**1602 г.** Памёр Ян Абрамовіч, дзяржаўна-рэлігійны дзеяч ВКЛ, уладальнік мястэчка Варняны (цяпер Астравецкі раён), выдавец кальвініцкіх кніг.

**1888 г.** Памёр Зыгмунд Урублеўскі, ураджэнец Горадні, вядомы фізік, удзельнік вызвольнага чыну 1863 году.

**20 красавіка**

**1666 г.** На Слонімшчыне нарадзіўся Кшыштаф Завіша, пісьменьнік-мемуарыст, дыпламат, дзяржаўны дзеяч ВКЛ і Рэчы Паспалітай.

**1758 г.** Нарадзіўся Язафат Булгак - апошні уніяцкі мітрапаліт на Беларусі, паходзіў з Гарадзеншчыны.

**1833 г.** У вёсцы Мастаўляны (цяпер у Беластоцкім ваяводзтве) нарадзіўся Віктар Каліноўскі, археограф, удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху, старэйшы брат К.Каліноўскага.

**1913 г.** У Горадні заснавана габрэйскае таварыства дзеля аказаньня дапамогі хворым і бедным.

**1923 г.** У Вільні памёр Ігнат Канчэўскі, вядомы паэт і публіцыст, руплівец беларушчыны.

**22 красавіка**

**1922 г.** Выйшаў першы нумар газеты «Беларусі шлях» (выдавалася ў Горадні з красавіка па жнівень). Праводзіла лінію згодніцтва з тагачаснай уладай.

**23 красавіка**

**1398 г.** Вялікі князь Вітаўт заключае дамову з Лівоніяй пра хаўрус з Тэўтонскім ордэнам.

**1657 г.** Памёр Сільвестр Косаў, ураджэнец Жыровічаў, рэлігійны і грамадзкі дзеяч.

**1934 г.** У вёсцы Верасква (на Навагрудчыне) нарадзіўся Уладзімір Конан, вядомы сучасны філосаф і літаратуразнаўца.

**24 красавіка**

**1696 г.** Нарадзіўся Міхаіл Чартарыйскі, дзяржаўна-палітычны дзеяч, пэўны час быў гарадзенскім старастам.

**1775 г.** Нарадзіўся Якаў Фалькоўскі, асьветнік-дабрачынец, зьяўляўся рэктарам піярскай школы ў Шчучыне. Стварыў сістэму навучаньня глуханямых дзяцей мове жэстаў.

**1794 г.** Абвяшчэньне Віленскага акту паўстаньня на чале з Тадэвушам Касьцюшкам.

**25 красавіка**

Міжнародны дзень парадненых гарадоў.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ.**

# АРМЕНІЯ — МОЙ ГОНАР І СМУТАК

**24 красавіка 1915 году. Чорны дзень у лёсе армянскага народу. У гэты дзень пры маўклівай згодзе цывілізаванай Эўропы (Англіі, Францыі, Расеі і г.д.) пачалося масавае зьнішчэньне армян. Выканаўцамі гэтага злачынства былі туркі на чале з арганізацыяй младатурак. Так яны вырашылі пытаньне аб самастойнасьці армян і аб аб'яднаньні іх з расейскай Арменіяй. І вырашылі вельмі проста: няма армян - няма і армянскага пытаньня. У выніку было зьверскі зьнішчана звыш 1,5 мільёна чалавек з больш чым 3,5 мільёнаў армянскага насельніцтва турэцкай Арменіі. Хто ўцалеў - разыйшліся дарогамі бежанцаў па ўсяму сьвету. Многія знайшлі прытулак у далёкіх землях і стварылі свае суполкі. Але многія і загінулі. Многія прымушаны былі прыняць веру таго народу, той краіны, дзе яны апынуліся.**

У цяперашні час па-за тэрыторыяй Арменіі жыве каля 5 мільёнаў армян. Але ўсе яны ведаюць, хто яны, дзе радзіма іх продкаў і што прымусіла іх апынуцца на чужой зямлі. Армянскія суполкі падтрымліваюць сувязь з гістарычнай Радзімай. Любы армянін, які жыве ў Арменіі ці на чужыне, выдатна ведае гісторыю свайго народу, пачынаючы з даўніх вякоў і да нашых дзён, захоўвае і перадае па спадчыне звычаі і непаўторны нацыянальны каларыт. Армяне берагуць сваю мову, сваю культуру.

Але як складзецца далейшы лёс армянскіх суполак у многіх краінах сьвету? Больш як чатыры гады назад, з развалам СССР Арменія атрымала незалежнасьць і стала паўнапраўным членам міжнароднага супольніцтва. У Арменіі засталося вельмі многа нявырашаных пытаньняў, у тым ліку і зварот тэрыторый, па розных прычынах адрэзаных ад яе (турэцкая Арменія, Нагорны Карабах, Нахічывань). Галоўнай прычынай страт гэтых тэрыторый зьяўляецца дагавор ад 16.3.1921 г. паміж Сав.Расеяй і Турцыяй, падпісаны Леніным і Ататюркам. Згодна гэтаму дагавору, Нахічывань і Нагорны Карабах (Арцах) былі перададзены Азербайджану, а 6 абласцей (вілаетаў) адыйшлі да Турцыі (з 1915 году па сёньняшні дзень там не жыве ніводзін армянін).

Лёсы народаў, як і лёсы людзей, дзіўна падобныя. У трагічным лёсе беларускага народу многа агульнага з лёсам армянскага народу.

Сяло, дзе я нарадзіўся, называецца Дамала. Гэта грузінскае слова, якое азначае «схаваўся». На гэтым месцы калісьці грузінскі цар Іраклі II са сваім войскам схаваўся ў засадзе, а потым на досьвітку нечакана на раздарожжы, паміж дзьвюма гарамі, напаў на войска туркі і разьбіў яго. Перамога была поўнай. Але самае цікавае, што туркаў было нашмат больш, чым грузінскіх вояў.

Мясьціны гэтыя гістарычныя. Недалёка, у 10-12 кіламетрах, знаходзіцца знакаміты горны замак - крэпасьць царыцы Тамар-Вардзія. А на злучэньні Куры і Храмі - старажытная крэпасьць Хертвісі.

Дык вось у гэтыя мясьціны ў 1828 годзе мае продкі і яшчэ шмат сем'яў з Эрзрума, што ў Турэцкай Арменіі, ўцяклі, сагнаныя туркамі ў час Расейска-Турэцкай вайны. І вось ужо 170 гадоў, як мае родзічы жывуць на гэтай цудоўнай благадатнай зямлі побач з братамі-хрысьціянамі – грузінамі, здабываючы ў цяжкай працы селяніна хлеб штодзённы ў суровых горных умовах.

Да 1944 году наш раён засялялі туркі-месхеціецы, за выключэньнем нашага сяла і яшчэ некалькіх сёлаў, дзе жылі грузіны.

Старыя людзі расказваюць, што ў тыя гады было небясьпечна. Рабаваньні і разбой, што ўчынялі туркі, часта ставілі маіх продкаў на край пагібелі. Учынялі яны гэта ня толькі над нашым армянскім сялом, але і над сёламі грузін, бо мы ў іх вачах былі гяўры - няверныя.

Я часта ўзгадваю аповяд нашага суседа - дзядулі Онэса аб зладзействах, якія ўчынялі турэцкія бандыты і як дзядуля Онэс з сябрамі, тады яшчэ зусім маладымі, абаранялі ад туркаў жыцьцё і гонар людзей гэтага края.

Было гэта ў 1914 годзе. Тады у нашых мясьцінах лютавала банда турка Ката-Мусы. Празвалі яго катом таму, што ўмеў мяўкаць ён, як кот, ды так, што жанчыны ў начны час, пачуўшы мяўканьне ля дзьвярэй, адчынялі іх, каб упусьціць валацужку. Такім чынам бандыты ўрываліся ў хаты і выраблялі над людзьмі, што хацелі. Онэс і яго сябры вырашылі аднойчы падпільнаваць Ката-Мусу і яго банду. Апошнім зладзейскім учынкам бандыты давялі цярпеньне людзей да выбуху. Што так ускалыхнула ўсіх? Незадоўга да гэтага, Кот-Муса са сваёй бандай зьвялі жывёлу, што паслася на горных лугавінах, ды забілі двух чабаноў. А ноччу ўварваліся ў хату селяніна, што жыў на ўскрайку сяла, і забілі ўсю яго сям'ю - гаспадара, яго жонку ды сына. А маладую нявестку зґвалцілі, выкалалі вочы. Пасьля гэтых зьдзекаў яна пратрывала яшчэ суткі і пасьпела расказаць пра ўсё людзям.

Дык вось маладыя хлопцы на чале з Онэсам пайшлі ў горы, у лясы, каб адшукаць бандытаў Ката-Мусы. Наўпрост сустракацца з бандытамі было небясьпечна, бо іх было шмат і яны былі добра ўзброеныя. Онэс жа ды яго хлопцы мелі толькі шаблю, дубінкі ды сякеры. Вырашылі сабраць пабольш камянёў на версе над сьцяжынкай, і калі бандыты будуць па сьцяжынцы праходзіць (гэта была адзіная дарога ўніз з гораў), вырашылі скінуць камяні на іх. Аднойчы на досьвітку яны ўсё ж дачакаліся. Калі каменьне з грохатам нечакана павалілася на бандытаў, рэха доўга яшчэ разносілася ў гарах. Калі ўсё сьціхла, хлопцы спусьціліся ўніз, апазналі ўсіх, але галавы шайкі сярод забітых не было. Кот-Муса хаваўся ў той час у горнай пячоры, а потым уцёк патайным лазам, які быў вядомы толькі яму.

Аднойчы вясною Онэс і яго сябар Мадо былі ў засадзе ў густым лесе каля крыніцы. І вось паказаўся Кот-Муса. Аглядзеўся асьцярожна вакол, сагнуўшыся падыйшоў да крыніцы, укленчыў, схіліўся, стаў прагна піць ваду. І ў гэты момант Онэс, як каршун, наляцеў на Мусу, прыдавіў да зямлі, а галаву ўсунуў у ваду. Той пачаў адчайна адбівацца і Онэс зразумеў, што адзін ён яго не ўтрымае, але на дапамогу падасьпеў сябар Мадо. Ён з усяе сілы апусьціў сякеру на галаву бандыта...

Дзядуля Онэс расказаў мне гэтую гісторыю, потым запаліў старую люльку, уздыхнуў і паглядзеў на схіл гары насупраць.

Я зразумеў: там на ўзгорку была адзінокая магіла яго сябра Мадо. Гэтую магілу шануюць усе жыхары нашага сяла. Калі я спытаў, чаму яны ўсё ж забілі Ката-Мусу, дзядуля паглядзеў на мяне і сказаў: «Гэта быў не чалавек, ня зьвер і нават не зьмяя. Гэта быў вурдалак у чалавечым падабенстве».

**Рыгор ФАРМАНЯН.**

